На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...
Якуб КОЛАС

№ 74 (1887)

Серада, 28 красавіка 2004 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах
Перыядычнасць — 5 разоў у тыдзень
Выдавец: УП «Народная воля».

Кошт свабодны.

# Народная Воля

E-mail: nv@promedia.by
http://nv.promedia.by

**Надвор'е**

У Мінску сёння ўдзень чакаецца — +12...+14, сонечна, уначы — +5...+7, без ападкаў; у Брэсце ўдзень — +14...+16, сонечна, уначы — +6...+8, дождж; у Гродне ўдзень — +14...+16, сонечна, уначы — +2...+4 без ападкаў; у Віцебску ўдзень — +9...+11, сонечна, уначы — +1...+3, без ападкаў; у Гомелі ўдзень — +12...+14, сонечна, уначы — +2...+4, без ападкаў; у Магілёве ўдзень — +10...+12, сонечна, уначы — +1...+3, без ападкаў.

*www.meteo.by*



ПУЛЬС

## Прадпрымальнікі зноў хвалююцца

*Прадпрымальнікі Жодзіна звярнуліся да гарадскіх улад з патрабаваннем палепшыць умовы іх працы.*

Паводле слоў старшыні Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання "Перспектыва" Анатоля Шумчанкі, каля 50 прысутных на плошчы горада прадпрымальнікаў — членаў "Перспектывы" прынялі рашэнне накіраваць рэзалюцыю, прынятую сходам, у адміністрацыю горада Жодзіна, а таксама ва ўрад Беларусі. Прадпрымальнікаў горада не задавальняюць умовы працы на гарадскім рынку.

"У выпадку невыканання патрабаванняў, выкладзеных у звароце, мы пакідаем за сабой права на правядзенне акцый пратэсту", — заявіў лідэр "Перспектывы".

**Генадзь ШАРЫПКІН.**

## Далятаўся!

*Мінскай транспартнай пракуратурай заведзена крымінальная справа ў дачыненні да 41-гадовага рэгіянальнага прадстаўніка Рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства "Нацыянальная авіякампанія "Белавія" на Кіпры.*

Як паведамілі БелаПАН ва ўпраўленні ўнутраных спраў на транспарце МУС Беларусі, жыхар Мінска наўмысна насуперак інтарэсам службы з выкарыстаннем сваіх службовых паўнамоцтваў з 1 ліпеня 2002 года па 1 лютага 2004 года пры рэалізацыі грамадзянам 194 авіябілетаў неабгрунтавана прадаў іх са зніжэннем кошту квоты прадстаўніцтва "Белавія" і тым самым нанёс урон згаданай авіякампаніі на суму 30 мільёнаў рублёў.

Злачынства караецца штрафам або пазбаўленнем права займаць пэўныя пасады, або займацца пэўнай дзейнасцю, або пазбаўленнем свабоды на тэрмін да двух гадоў.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ.**

## Прыходзьце нашых падтрымаць!

*Сёння нацыянальная зборная Беларусі па футболе правядзе ў Мінску таварыскі матч супраць каманды Літвы. Сустрэча пачнецца ў 19 гадзін на стадыёне "Дынама".*

Зараз спіс кандыдатаў на ўдзел у таварыскім матчы выглядае так: **варатар** — Васіль Хамутоўскі ("Сцяуа", Румынія), Аляксандр Суліма ("Нёман", Гродна);

**абаронцы** — Андрэй Астроўскі, Сяргей Яськовіч (абодва з "Торпедо-Металлург", Расія), Сяргей Штанюк ("Шинник", Расія), Сяргей Амельянчук ("Арсенал", Украіна), Дзмітрый Раўнейка ("Торпедо", Масква, Расія), Ігар Тарлоўскі ("Алания", Расія), Сяргей Гурэнка ("Локомотив", Масква, Расія), Аляксандр Быліна ("Тарпеда-СКА", Мінск);

**паўабаронцы** — Аляксандр Хацкевіч, Валянцін Бялькевіч (абодва з "Дынама", Кіеў, Украіна), Максім Рамашчанка ("Трабзанспор", Турцыя), Уладзімір Карыцька ("Алания"), Дзяніс Коўба ("Крылья Советов", Расія);

**нападаючыя** — Віталь Кутузаў ("Авеліна", Італія), Віталь Булыга ("Амкар", Расія), Уладзімір Макоўскі ("Тарпеда-СКА"), Генадзь Блізнюк ("Гомель").

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

## Асцярожна! Злы эвакуатар!

*У тых дварах горада Мінска, дзе найбольш часта ўзнікаюць праблемы з праездам спецыяльнага транспарту і машын аператыўнага прызначэння, паркоўка прыватных аўтамабіляў будзе абмежавана.*

Як паведаміў БелаПАН намеснік начальніка ўпраўлення энергетыкі і гарадской гаспадаркі Мінгарвыканкама Валерый Чачукевіч, дарожныя знакі, якія забараняюць прыпынак і стаянку, з дадатковай таблічкай "Эвакуатар", а таксама спецыяльная дарожная разметка будуць у найбліжэйшы час устаноўлены і нанесены каля ўездаў у двары і выездаў з іх, праездаў у арках, каля пад'ездаў і ў вузкіх праездах. У першую чаргу новыя забароны закрануць старыя двары сталіцы, дзе з-за вузкай планіроўкі прыпаркаваныя прыватныя аўтамабілі заўсёды перашкаджаюць праезду спецаўтатранспарту, машын "хуткай дапамогі" і іншага аператыўнага транспарту, асабліва зімой.

Цяпер да парушальнікаў будуць прымяняцца адміністрацыйныя меры, у тым ліку прымусовая адбуксіроўка аўтамабіляў.

**Лавінія АРЭШКА.**

## Дзякуй Богу, сёння атрымаў «дзесятку»

*Праваслаўная царква настойвае на ўвядзенні Слова Божага ў школах у якасці факультатыўнага занятка.*

Як заявіў епіскап Гомельскі і Жлобінскі Арыстарх, царкоўнае вучэнне не нясе нічога дрэннага для дзіцяці, і ўвядзенне яго ў сістэму адукацыі сярэдняй школы толькі дапаможа ў выхаванні годнай змены для нашага грамадства. Іншая справа, зазначыў Арыстарх, што наведванне факультатываў для школьнікаў павінна быць добраахвотным.

**Алена ПАСКАННАЯ.**

## Агню прыкурыць не знойдзецца?

*Пяць падраздзяленняў МНС удзельнічалі ў ліквідацыі пажару, які адбыўся 26 красавіка на складзе мэблевых матэрыялаў СП "Інвалюкс" у Брэсце.*

Першае паведамленне аб пажары ў аднапавярховым цагляным будынку паступіла на цэнтр аператыўнага кіравання Брэсцкага ўпраўлення МНС. На складзе гарэла ўпаковачная тара. Для ліквідацыі пажару ратавальнікам спатрэбілася паўтары гадзіны.

У выніку здарэння знішчана 20 кубаметраў пенапалістыролу і 20 пагонных метраў поліэтылену, пашкоджаны металічныя апоры, мэблевае шкло, плёнка ПВХ.

Мяркуючы па ўсім, пажар пачаўся з-за неасцярожнасці пры курэнні пакуль не ўстаноўленай асобы.

**Дзмітрый БЕЛЬСКІ.**

## «Песняры» пашыраюцца

*Нацыянальны цэнтр музычнага мастацтва імя Уладзіміра Мулявіна стане новым структурным падраздзяленнем дзяржаўнага ансамбля "Песняры".*

Як паведаміў БелаПАН начальнік упраўлення мастацтва Мінкультуры Міхаіл Казловіч, у новае падраздзяленне ансамбля "Песняры" ўвойдуць фанатэка, студыя гуказапісу, а таксама дзіцячая музычная студыя. На яго арганізацыю патрэбна некалькі месяцаў, у прыватнасці, неабходна набыць апаратуру для студыі, сабраць матэрыялы для фанатэкі, распрацаваць палажэнне і штатны расклад цэнтра.

**Юлія ЦЯЛЬЦЕЎСКАЯ.**

## Спартсмены заклалі ў Мінску алею спартыўнай славы і фруктовы сад

Алею спартыўнай славы і фруктовы сад ля спартыўнага рэстарана "Ля фантана" па вуліцы Амуратарскай у Мінску заклалі вядомыя беларускія спартсмены і трэнеры. Удзел у пасадцы ўзялі хакеіст Руслан Салей, тэнісістка Вольга Барабаншчыкава, гандбаліст Андрэй Парашчанка, біятланіст Аляксей Айдараў, дзюдаістка Таццяна Масквіна, гімнастка Юлія Раскіна, плыўчыха Аляксандра Герасіменя, трэнер па спартыўнай гімнастыцы Віктар Дайлідаў, зборная Беларусі па мастацкай гімнастыцы.

"Мы вырашылі сабрацца і ў дзень суботніка зрабіць добрую справу, — заявіў БелаПАН адзін з ініцыятараў акцыі Алег Шэпель. — Пачатак пакладзены, і на алеі і ў садзе ў далейшым будуць з'яўляцца новыя дрэвы, пасаджаныя нашымі славутымі спартсменамі".

**Дзмітрый УЛАСАЎ.**

СКАНДАЛ

# Михаил Маринич — в камере СИЗО КГБ

***В понедельник во второй половине дня сотрудниками КГБ был задержан Михаил Маринич. За решеткой — экс-председатель Минского горисполкома, экс-депутат Верховного Совета, экс-министр внешнеэкономических связей, экс-посол Беларуси в Латвии, экс-кандидат в президенты.***

Во вторник утром в пресс-центрах МВД и прокуратуры Беларуси не могли сообщить никакой официальной информации по делу Маринича.

В Центре информации и общественных связей КГБ пресс-релиз обещали подготовить лишь к обеду, поэтому вначале "Народная воля" связалась с Игорем Мариничем — сыном Михаила Афанасьевича.

По его словам, в понедельник был проведен обыск на даче отца, которая находится в районе деревни Зацань Минского района.

*— Вчера также хотели сделать обыск и в квартире, но она записана на мать,* — говорит Игорь. — *В субботу неизвестные разбили стекло в машине отца. До этого было инсценировано ограбление на даче... Там, где он жил, исчезли деньги, все до последней копейки.*

***— Вы знаете, почему его задержали?***

*— В понедельник его пригласили для дачи показаний в КГБ. Он туда поехал около трех часов дня. Где-то в 16—18 часов звонил мне, а теперь его мобильный отключен... Вчера его уже не выпустили.*

***— А по какому поводу он поехал в КГБ давать показания?***

*— К сожалению, насколько мне известно, ему ничего не объяснили, просто попросили приехать.*

*Сейчас одна из комнат на даче опечатана.*

***— А что могли (или хотели) найти на даче?***

*— Не знаю... У него там хранился архив, еще со времен, когда он был депутатом Верховного Совета. Отец все надеялся, что, когда появится свободное время, сядет писать мемуары. Там была кипа бумаг...*

Судьбой Михаила Маринича вчера интересовались и депутаты Палаты представителей. Во время очередного пленарного заседания **Валерий Фролов** задал вопрос о Мариниче премьер-министру **Сергею Сидорскому,** который представлял в Овальном зале программу деятельности правительства Беларуси. Сергей Сергеевич отвечать на вопрос отказался, заявив, что это не имеет никакого отношения к той программе, о которой он говорил.

Тогда Фролов в приватном порядке обратился за разъяснениями к председателю КГБ Беларуси **Леониду Ерину,** который также находился в Овальном зале. По словам Ерина, в установленный срок Мариничу будут предъявлены обвинения, его подозревают в совершении ряда преступлений. Скорее всего он будет проходить сразу по нескольким статьям Уголовного кодекса, в том числе и хищение официальных документов. Правда, неизвестно, похищены данные документы во время работы Маринича на госслужбе или в другой период его деятельности. По словам шефа КГБ, у Маринича также была обнаружена крупная сумма денег.

В интервью "Интерфаксу" Леонид Ерин сказал, что считает преждевременным *"увязывать дело Маринича с недавно задержанными в Брестской области в апреле текущего года 100 000 долларов"*, передаваемыми, по данным КГБ, на поддержание белорусской оппозиции. *"По данному факту также ведется расследование"*, — заявил Ерин.

В пресс-релизе Центра информации и общественных связей КГБ Беларуси сообщается: ***"В ходе проведения следственных действий у М.Маринича обнаружены и изъяты официальные документы различных государственных органов, содержащие сведения, относящиеся к категории госсекретов, использование которых может причинить существенный вред государству. Также у Маринича изъяты два незарегистрированных пистолета иностранного производства и свыше 90 тысяч долларов.***

***В отношении Михаила Маринича Комитетом госбезопасности возбуждено уголовное дело по части второй статьи 377 и части второй статьи 295 Уголовного кодекса Беларуси. Проводится расследование".***

Пока рано говорить об истинных причинах ареста М.Маринича. "Народная воля" будет внимательно следить за развитием событий и информировать своих читателей.

**Марина КОКТЫШ.**



*Сегодня Михаилу Афанасьевичу, видимо, не до улыбок...*

## «Чарнобыльскі шлях» прывёў у міліцыю

*Некалькі соцен чалавек бралі ўдзел у традыцыйнай акцыі "Чарнобыльскі шлях", што адбылася ў Мінску 26 красавіка.*

Прадстаўнікі Народнай кааліцыі **"5+"** накіравалі ў Мінгарвыканкам заяўку на правядзенне шэсця ад плошчы Якуба Коласа па праспекце Ф.Скарыны, вуліцам Сурганава і Карастаянавай. Гарадскія ўлады не далі магчымасці правесці акцыю ў такім фармаце, дазволіўшы толькі мітынг у Парку дружбы народаў — каля плошчы Бангалор ля памятнага каменя, прысвечанага ахвярам чарнобыльскай катастрофы.

Шэсце, якое ўзначалілі юнакі і дзяўчаты з незарэгістраванага грамадскага аб'яднання "Малады фронт", працягвалася паўтары гадзіны ў суправаджэнні міліцыі. У раёне скрыжавання вуліц Сурганава і Я.Коласа ў калонах усё ж з'явіліся традыцыйны звон і ікона "Маці Божай Чарнобыльскай".

Удзельнікі мітынгу запатрабавалі ад улад забараніць вытворчасць сельгаспрадукцыі, забруджанай радыенуклідамі, забяспечыць усё пацярпелае насельніцтва прэпаратамі, што блакіруюць радыенукліды ў арганізме чалавека, а таксама аднавіць ільготы пацярпелым ад трагедыі.

Пасля акцыі, што завяршылася чарнобыльскай малітвай, усе яе заяўнікі, вядомыя грамадска-палітычныя дзеячы Павел Знавец, Людміла Гразнова, Алесь Міхалевіч і Генадзь Быкаў атрымалі позвы аб тым, што яны выкліканы ва РУУС Савецкага раёна сталіцы ў якасці правапарушальнікаў.

**Марат ГАРАВЫ.**

## Паўпраўда горш за хлусню

І ўсё ж моцныя розумам нашыя тэлекаментатары.Яны, бачыце, ўцямілі, што амерыканцы не на тое трацяць свае "зялёныя".

26 красавіка ў вячэрнім інфармацыйным блоку адін з казенных аналітыкаў БТ так і заявіў: амерыканцы ў 1993 годзе ахвяравалі ўсяго толькі 190 тысяч долараў на рэстаўрацыю Гомельскай бальніцы хуткай дапамогі ды 100 тысяч долараў на стварэнне рэгіянальнага рэабілітацыйнага цэнтра Тураўскай раённай бальніцы. А вось беларускай апазіцыі не пашкадавалі аж 10 мільёнаў долараў.

Адным словам, садануў пад самы дых ідэалагічны тэрмінатар з БТ. І сказаць не было б чаго, калі б не адпаведная заява пасла ЗША ў Беларусі Джорджа Крола з нагоды 18-й гадавіны чарнобыльскай катастрофы.

Чытаем: *"Усе 18 год, і асабліва пасля таго, як Беларусь стала суверэннай і незалежнай дзяржавай, Злучаныя Штаты Амерыкі дапамагаюць ёй аблегчыць той вялізны цяжар, які чарнобыльская аварыя наклала на беларускую эканоміку, сістэму аховы здароўя і бацькоў, якія хочуць, каб іх дзеці раслі ў бяспечным асяроддзі. Урад ЗША праз Дзяржд эпартамент і Камандаванне ўзброенымі сіламі ЗША ў Еўропе, а таксама шматлікія амерыканскія прыватныя дабрачынныя арганізацыі і асобныя грамадзяне перадалі абсталявання і медыкаментаў на суму больш за 200 мільёнаў долараў. Значная частка гэтай дапамогі была адрасаваная людзям, што жывуць на тэрыторыях, якія найбольш пацярпелі ад чарнобыльскай катастрофы".*

Такім чынам, каментатар з тэлэбачання сказаў толькі частку праўды пра амерыканскую дапамогу чарнобыльцам. І свядома прыхаваў другую. А як вядома, паўпраўда горш за суцэльную хлусню.

Гэты выпадак "выкрыцця" Амерыкі тым больш непрыстойны, што ён кранае гонар краіны, з якой нельга не лічыцца.

Нідзе ў цывілізаваным свеце не плююць у бок таго, хто працягвае руку падтрымкі. Але ж нам, калі слухаць ідэалагічных падзёншчыкаў БТ, цывілізаваны свет не ўказ.

**Вячаслаў КАЗЛОЎСКІ.**

АДКРЫТЫ ЛІСТ

## Правяраць — правярайце, а вось закрываць — недапушчальна!

### У абарону Саюза беларускіх пісьменнікаў

15 красавіка г.г. у вячэрняй перадачы па АНТ "Нашы навіны" я пачуў не зусім зразумелую для мяне вестку, што Міністэрствам юстыцыі нашай краіны была наладжана праверка работы Саюза беларускіх пісьменнікаў. Правяраўся быццам сам склад пісьменніцкай арганізацыі, уплата членскіх узносаў і чаму ў Саюзе яго членамі з'яўляюцца некаторыя іншаземныя пісьменнікі. Пастаноўка апошняга пытання, мне здаецца, не да месца. Напрыклад, вядома, што членамі нашага Саюза з'яўляюцца Алесь Барскі (Баршчэўскі), які жыве ў Польшчы, загадвае кафедрай беларускай літаратуры ў Варшаўскім універсітэце і піша сам на беларускай мове, з'яўляецца аўтарам некалькіх кніг паэзіі. Альбо ўзяць рускамоўнага паэта Івана Бурсава, які доўгі час жыве ў Маскве, але не перарывае ні на дзень сваёй цеснай сувязі з літаратурнай Беларуссю. Можна яшчэ назваць некаторых пісьменнікаў, якія жывуць і працуюць за межамі нашай краіны, але падтрымліваюць моцную сувязь з ёй, прапануюць свае кнігі ў розныя выдавецтвы.

Што я хачу сказаць у сувязі з праверкай, якая была праведзена Міністэрствам юстыцыі? Не магу заставацца ў баку ад такой з'явы, бо сам з'яўляюся членам Саюза беларускіх пісьменнікаў, у які быў прыняты адразу пасля вайны па рэкамендацыі нашага выдатнага паэта Максіма Танка. Ён не толькі рэкамендаваў мяне для прыёму, але і быў цудоўным рэдактарам маіх першых дзвюх кніг.

Дык вось, мне думаецца, правяраць работу творчай арганізацыі, безумоўна, можна, каб ліквідаваць недахопы ў гэтай рабоце, асабліва ў тых, ад каго яны залежаць. Але ставіць пытанне аб ліквідацыі Саюза пісьменнікаў як творчай грамадскай арганізацыі — а такое заключэнне зрабіла праверачная камісія, — гэта ўжо, мне здаецца, парушэнне закона аб існаванні і дзейнасці творчых арганізацый. Такога не павінна дапусціць кіраўніцтва краіны.

У заключэнне гэтага адкрытага ліста хацеў бы прывесці радкі пра Саюз пісьменнікаў Беларусі, толькі што напісаныя і адрасаваныя яго старшыні Алесю Пашкевічу:

*Алесь Пашкевіч не ўчыняе вэрхалу*
*Тым, хто нясе Саюзу недавер.*
*У сваім Доме з трэцяга паверха*
*Ён не імкнецца ўзвысіцца наверх.*
*Чалавек ён добрага характару —*
*І з жыццём мацуе дружбы ніць.*
*Ды хоць частку б Дома літаратара*
*Ад недаверцаў тых абараніць.*

**Пятро ПРЫХОДЗЬКА.**

СИТУАЦИЯ

## Идеологи идут в народ

***А народу нужна не политинформация, а горячая вода, тепло в квартирах и заасфальтированные дороги.***

Не знаю, повсеместная это практика или инициатива руководства Минского района, но в понедельник вечером в поселке Сухорукие представители информационно-пропагандистской группы Минского райисполкома проводили встречу с местными жителями. Среди выступающих были заявлены специалист по идеологической работе **Александр Дашкевич**, первый заместитель начальника Управления сельского хозяйства **Тадеуш Барковский**, главный инженер жилищно-коммунальной службы "Боровляны" **Владимир Смоляков**, председатель Колодищанского сельского совета **Ольга Михалькевич** и другие.

Тема встречи не была обозначена, но народу собралось много. Как выяснилось позже, вовсе не для того, чтобы послушать лекцию о достижениях Минского района. **Тадеуш Барковский** успел сказать только то, что одна корова в Минском районе дает в среднем 12,5 литра молока в день и Минский район занимает третье место в Минской области по удоям, что на 100 гектарах земли работает 9 человек, как зал загудел: *"Нам не нужна лекция. Нам нужно решать наши проблемы"*.

Поселок Сухорукие находится на границе с Минском. Но ощущение такое, что в другом государстве. Может, Сухорукие — досадное исключение из общей радужной картины достижений Минского района? Горячая вода в поселке бывает только в отопительный сезон. С апреля по октябрь из крана течет только ледяная жидкость. Причем непригодная для питья. Вода в квартиры поступает из пожарно-хозяйственного резервуара, и пить ее нельзя. В воде значительно превышено содержание кальция и магния. В результате на стенках труб наслаивается осадок, что становится причиной их поломки: при усилении напора воды трубы рвутся.

Другой момент — дороги. Они заасфальтированы ровно до указателя "Минск". Дальше ямы такие, что в них застревают машины. Два месяца назад в яму завалилась фура и парализовала движение. Несколько часов до конечной остановки не ходил автобус, на базу ОАО "Беллесбум" не мог добраться другой транспорт. Казалось, что теперь уж точно соответствующие службы займутся ремонтом дороги. Ничего подобного.

Понятно, жители поселка писали не одно письмо руководителям района, обивали пороги высоких кабинетов. Но воз и ныне там. 20 лет поселок без горячей воды, без новой скважины, без заасфальтированных дорог. Однажды, когда Сухорукие сидели два дня без света и воды, кто-то из жителей дозвонился до председателя Минрайисполкома **Леонида Русака.** *"Я думал, меня выслушают и примут меры,* — рассказывал на собрании житель поселка. — *Но Леонид Вячеславович был краток. "Я содействую тем, кто сеет и пашет, — заявил он, — а вы — не то и не другое". Но мы тоже работаем и платим налоги и коммунальные платежи".*

"Политинформаторы" обещали через две недели дать официальный ответ жителям поселка, каким образом власти Минского района намерены помочь людям. Народ требовал указать конкретные сроки, в ином случае грозился выйти и перекрыть железную дорогу в московском направлении. *"Вот тогда все услышат, как живут люди в процветающей стране!* — негодовали женщины. — *Вот это будет политинформация!".* Но кто-то вполголоса заметил: *"Не те времена, вычислят и посадят".*

**Мария ЭЙСМОНТ.**

ОСТРАЯ ПРОБЛЕМА

## Опять не выдают зарплату

Сколько раз А.Лукашенко заявлял: заработная плата должна выплачиваться своевременно. Угрозы в адрес тех работодателей, которые игнорируют это требование, а также в адрес премьер-министра и председателей областных, городских и районных исполкомов летели направо и налево. Вспомним:

### Сообщение пресс-службы президента 18 октября 2002 года

*Президент поручил правительству незамедлительно рассмотреть ситуацию на каждом предприятии, допустившем в силу тех или иных причин задержку выплаты зарплаты, и потребовал принять меры по ликвидации задолженностей.* ***Руководители предприятий, не предотвратившие возникновение несвоевременной выплаты зарплаты, должны быть уволены без права занимать в будущем руководящие посты — такое указание дал глава государства.*** *Было подчеркнуто также, что начиная с января 2003 года спрос за образование задолженностей по заработной плате будет жесточайший.*

### Сообщение пресс-службы президента 9 января 2003 года

*Принимая 17 октября 2003 года с докладом (тогдашнего. —* ***Ред.****) и.о. премьер-министра страны Сергея Сидорского, Александр Лукашенко потребовал незамедлительно погасить оставшуюся по отдельным предприятиям задолженность и принять самые жесткие меры к должностным лицам, виновным в ее появлении. Правительство должно реализовать комплекс мер, направленных на предотвращение образования долгов перед населением как по заработной плате, так и по другим выплатам, подчеркнул белорусский лидер.*

Казалось бы, после таких грозных требований главного правителя проблема должна быть решена раз и навсегда. И вообще: где это видано, чтобы человек месяц работал, а ему — ни копейки!

В то же время, как свидетельствуют факты, слова А.Лукашенко остаются лишь словами. Об этом говорят следующие цифры.

**Задолженность по зарплате**

| | Сумма в млн.руб. | Задолженность в % к фонду з/п последнего отчетного месяца |
|---|---|---|
| На 30 ноября 2001 года | 51.290,9 | 11,8 |
| На 30 июня 2002 года | 76.242,7 | 14,4 |
| На 17 апреля 2004 года | 196.549,9 | 23,7 |

Как видим, обуздать задолженность по зарплате никак не удается.

Последние данные приводит агентство БелаПАН. Оно сообщает, что по состоянию на 17 апреля этого года сумма невыплаченной заработной платы в стране составила 196.549,9 млн. рублей, или 23,7 процента от фонда заработной платы (ФЗП) марта.

Как сообщили БелаПАН в Министерстве труда и социальной защиты, большие долги по зарплате в организациях Министерства жилищно-коммунального хозяйства (не выплачено 73,9 процента от ФЗП), Министерства промышленности (29,5 процента), Министерства транспорта (37,5 процента), в концернах "Беллесбумпром" (27,7 процента), "Белхудожпромыслы" (63,3 процента) и "Белместпром" (36,1 процента), "Белкоопсоюз" (23,9).

Среди областей наиболее неблагоприятная обстановка по выплате заработной платы наблюдается в Гродненской (33 процента), Минской (не выплачено 32,3 процента), Могилевской (26,1 процента) и Брестской (22,9 процента) областях.

Разумные люди давно заметили: у белорусских руководителей слова расходятся с делами. А раз так, то народ сам вправе поставить вопрос об их замене.

**Сергей ИВАНОВ.**

КРИК ДУШИ

## Как прожить на такую пенсию?

Мне и моей жене пошел восьмой десяток. Живем в двухкомнатной квартире. Получаем пенсию 305 тысяч рублей — это общая сумма. Их них: 65 тысяч рублей отдаем за коммунальные услуги, за свет и телефон еще около 15 тысяч рублей. На лекарства — 70—80 тысяч ежемесячно. Остается 145—150 тысяч рублей.

Хотелось бы спросить у идеологов, которые убеждают нас, что мы живем лучше, чем граждане других стран СНГ, вот о чем: как прожить пенсионерам на такую сумму?

Мне 74 года. Жене 70. Отработали на производстве соответственно 45 и 43 года. В детстве, после войны, работали в колхозе. До 17-летнего возраста работу в сельском хозяйстве в стаж нам не засчитали. Ежемесячно у нас из зарплаты высчитывали немалые суммы. Подписывались на различные облигации. Платили в фонд мира и закрывали другие дыры своими заработанными деньгами. В течение всей трудовой жизни мы сумели положить в сбербанк (на старость) шесть тысяч рублей. В то время это было более шести тысяч долларов. Но эти деньги съела инфляция, а если точнее, то их просто украли. Взамен всего этого — вот такая нищенская пенсия.

**Иван ХАРЛОВСКИЙ.**
*Минск.*

## Куда исчезли наши вклады?

Нам объясняли, что вклады в банки обесценились от инфляции. Но реформы делались для улучшения жизни всех. Поэтому, если инфляция принесла кому-то ущерб, то виновники должны возместить потерпевшим причиненный им материальный и моральный вред.

Получилось, что честно заработанные за всю жизнь сбережения пропали, т.е. их отняли. Однако никто за это ответственности не понес, расплачиваются сами пострадавшие, их права не восстановлены.

А незаработанные огромные, дополнительно отпечатанные деньги использовались другими лицами. В государстве ничего не исчезает бесследно, оно лишь переходит из одних рук в другие. Не только за счет уничтожения вкладов, но и с помощью многочисленных других методов происходит постоянное, непрерывное, принудительное перераспределение средств. В том числе за счет одностороннего, без согласования с заинтересованными сторонами установления цен, тарифов, нормативов, коэффициентов, правил индексации или ее отсутствия, установления зарплат, пенсий, дотаций, льгот, теневых доходов, коррупции, криминала и т.д.

Все это происходит также потому, что не известно, кто конкретно ответствен за обеспечение важнейших Конституционных прав и гарантий, отсутствует механизм их восстановления конкретным пострадавшим.

**Валентин ЗАЛИЗНЯК.**
*Минск.*

ЖИВУТ ЖЕ!

## Самый дорогой дом в мире

*За рекордную сумму в 128 миллионов долларов продан дом в одном из самых престижных районов британской столицы. Судя по сумме сделки, это самая дорогая недвижимость в мире.*

Собственностью в центральном лондонском районе Кенсингтон — а еще точнее, в его роскошной части Кенсингтон Пэлэс Гарденс — обзавелся бизнесмен и миллиардер Лакшми Миттал, который заработал свое состояние на сталелитейном производстве. Он владеет группой LMN — вторым в мире производителем металлопродукции. По некоторым оценкам, его состояние составляет 3,5 млрд. фунтов.

Ранее рекордный лондонский особняк принадлежал владельцу "Формулы-1" Берни Экклстоуну. Некоторое время назад в британской прессе появились сведения, что дом был готов купить российский бизнесмен и владелец лондонского "Челси" Роман Абрамович. Однако эти сообщения так и не подтвердились.

Итак, что же Миттал купил за 128 миллионов долларов? Кроме всего прочего, это собственные турецкие бани, большой бальный зал и инкрустированный бриллиантами бассейн в цокольной части дома. А некоторые колонны и напольные покрытия сделаны из такого же мрамора, который использовался при строительстве Тадж Махала. Недвижимость состоит из здания бывшего посольства Египта и части старого посольства России.

Нынешняя сделка побила рекорд, который принадлежал хозяину одного из домов в Гонконге, который в 1997 году за недвижимость заплатил на 10 миллионов долларов меньше, чем индийский миллиардер.

Однако финансовая сторона этого дела, похоже, не так тревожит господина Миттала, как остальных жителей британской столицы. У миллиардера уже есть особняк в северном Лондоне стоимостью 9 млн. фунтов.

# Якую ваду п'ём?

**Асноўная праблема якасці пітной вады ў Беларусі — перавышэнне ўтрымання ў ёй жалеза і марганцу. Аб гэтым паведаміла старшыня Беларускага таварыства абароны спажыўцоў Тамара Бельская на прэс-канферэнцыі ў Мінску.**

Паводле яе слоў, перавышэнне ўтрымання згаданых хімічных рэчываў у пітной вадзе звязана, найперш, з недасканаласцю сістэм ачысткі, што выкарыстоўваюцца прадпрыемствамі сістэмы Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі Беларусі. Асноўным метадам ачысткі вады, зазначыла яна, застаецца прынцып хларыравання, а не абезжалезвання, што звязана ў першую чаргу з недахопам фінансавых сродкаў.

Яшчэ адной праблемай выкарыстання пітной вады ў Беларусі, паводле слоў Т.Бельскай, з'яўляецца занадта вялікі аб'ём яе расходавання. Беларусь, зазначыла яна, "адзіная ў свеце" краіна, дзе нарматыўнае спажыванне вады на аднаго чалавека ў суткі складае 219 літраў, напрыклад, у Заходняй Еўропе гэты паказчык складае 135 літраў.




Як зазначыла галоўны спецыяліст упраўлення сертыфікацыі Камітэта па стандартызацыі, метралогіі і сертыфікацыі пры Савеце міністраў Беларусі Нэлі Мажаева, "рашэнне комплексу задач па забеспячэнні насельніцтва якаснай пітной вадой з'яўляецца адным з прыярытэтных кірункаў дзейнасці камітэта". На гэты момант, зазначыла яна, у Беларусі сертыфікацыі падлягае як пітная вада сістэмы пітнога водазабеспячэння, так і бутыліраваная вада, што выпускаецца і ўвозіцца ў краіну, а таксама тэхналагічныя працэсы, абсталяванне, матэрыялы і хімічныя рэчывы для ачысткі і абеззаражвання пітной вады. Такім чынам, сертыфікацыі падвяргаецца ўся пітная вада, што рэалізуецца беларускаму спажыўцу.

Галоўнай праблемай на сённяшні дзень, паводле слоў Н.Мажаевай, застаецца тое, што жыллёвыя гаспадаркі не могуць забяспечыць спажыўцоў у поўным аб'ёме якаснай і бяспечнай пітной вадой. Прадпрыемствы сістэмы Мінжылкамгаса яшчэ не маюць неабходнай колькасці станцый абезжалезвання і мадэрнізаванага абсталявання для ачысткі і абеззаражвання пітной вады, зазначыла яна. Для вырашэння гэтых праблем, паведаміла Н.Мажаева, Мінжылкамгасам распрацавана дзяржаўная праграма па водазабеспячэнні і водаачышчэнні "Чыстая вада". Яна ўтрымлівае паэтапны графік сертыфікацыі пітной вады сістэмы пітнога водазабеспячэння прадпрыемстваў міністэрства. Графік разлічаны да 2010 года, "да гэтага часу ўсе гаспадаркі краіны будуць пастаўляць якасную і бяспечную ваду", падкрэсліла Н.Мажаева.

**Вольга ЛАПІКАВА.**

# Спроба зацугляць творцаў?

*Увядзеннем цэнзуры на творчы працэс лічаць некаторыя прадстаўнікі беларускай інтэлігенцыі змяненні і дапаўненні ў Закон "Аб культуры ў Рэспубліцы Беларусь", прынятыя ў другім чытанні дэпутатамі Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу.*

Нагадаем, што ўвядзенне паправак у закон аб культуры дазваляе дзяржаўным органам умешвацца ў творчы працэс у выпадку, калі будзе вырашана, што яго вынікі могуць нанесці ўрон здароўю і маральнасці чалавека, а таксама калі твор утрымлівае і распаўсюджвае звесткі, якія зневажаюць гонар і годнасць прэзідэнта, кіраўнікоў дзяржаўных органаў, статус якіх вызначаны Канстытуцыяй.

У інтэрв'ю БелаПАН старшыня грамадскай ініцыятывы "Рада беларускай інтэлігенцыі" Уладзімір Колас назваў змяненні і дапаўненні ў закон аб культуры "імкненнем схаваць амаральную сутнасць новага закона за фасадам высокіх слоў аб прынцыпе свабоды мастацкай творчасці". Паводле яго слоў, галоўнае ў новай рэдакцыі закона аб культуры заключаецца ва ўвядзенні "незаконнай цэнзуры, якая павінна стаяць на абароне ўладаў, гатовых любымі спосабамі ўтрымаць яе ў сваіх руках".

Кіраўнік Беларускага ПЭН-цэнтра Лявон Баршчэўскі нагадаў, што "мастацкія творы не распаўсюджваюць звесткі". "Выкарыстанне такога словаспалучэння сведчыць аб непісьменнасці аўтараў законапраекта. Бо мастацкі твор, у адрозненне ад інфармацыі СМІ, стварае мастацкі вобраз, які не можа нікога прыніжаць і закранаць нечыя гонар і годнасць", — падкрэсліў Л.Баршчэўскі.

Разам з тым, як мяркуе вучоны, новая рэдакцыя закона аб культуры "сведчыць аб увядзенні цэнзуры, забароненай Канстытуцыяй". "Такім чынам, размова ідзе аб парушэнні Асноўнага закона краіны", — сказаў Л.Баршчэўскі.

Старшыня Саюза пісьменнікаў Беларусі Алесь Пашкевіч у інтэрв'ю БелаПАН заявіў, што "ў сваёй творчасці кожны пісьменнік краіны падпарадкоўваецца Боскім законам". "Названыя папраўкі ў закон аб культуры насцярожваюць членаў творчага аб'яднання, якія аказваюцца неабароненымі пасля публікацыі свайго твора. Але ж сапраўдная літаратура, якая заклікана абуджаць людскую памяць, прымушае чалавека задумвацца і ўзнімае самыя вострыя пытанні паўсядзённага жыцця. Аднак цяпер зрабіць гэта будзе даволі праблематычна без адпаведных наступстваў", — сказаў А.Пашкевіч.



**Марат ГАРАВЫ.**

# На работу, как на фронт

**28 апреля объявлен Международной организацией труда (МОТ) Всемирным Днем охраны труда. Это хороший повод для анализа ситуации по данной проблеме в нашей стране. Тем более что поступающие сообщения свидетельствуют о неудовлетворительной охране труда на предприятиях Беларуси. Многие работники получают травмы, другие погибают. Вот несколько информаций из профсоюзного сайта.**

Председатель Брестского облисполкома Константин Сумар на внеочередном заседании БрОИК в категоричной форме поручил "разобраться" с деятельностью областного управления Департамента государственной инспекции по труду. По словам выступившего на заседании председателя Пинского горисполкома Василия Шуста, это ведомство, как правило, только констатирует факты несчастных случаев на производстве, превратившись в своеобразную статистическую структуру. Между тем на многих предприятиях и в организациях, вопреки растущему травматизму, сократили службу охраны труда, на некоторых — обязанности инженера по технике безопасности возложены на неквалифицированный персонал. В Брестской области только одно из пяти сельхозпредприятий имеет штатных работников по охране труда. В остальных хозяйствах эта служба ликвидирована. Внушает тревогу и другая статистика. В 2003 году в Брестской области 7400 человек были привлечены к административной ответственности за распитие спиртных напитков на рабочем месте. По статистическим данным, в расчете на каждого жителя Брестчины реализуется 34 литра дешевого плодово-ягодного вина.

На заседании коллегии Могилевской областной прокуратуры проанализировали ситуацию с травматизмом на производстве в регионе. За прошлый год на производстве произошло более 700 несчастных случаев, из них 37 со смертельным исходом. Травмы получили 110 человек. Причины тяжелого исхода самые разные. Руководители и специалисты не смогли организовать безопасное выполнение работ и проконтролировать соблюдение работниками инструкции по охране труда. Нередко пострадавшие нарушали трудовую и производственную дисциплину, выпивали на рабочих местах. До травматизма доводит эксплуатация технически неисправных оборудования и машин, низкий уровень профессиональной подготовки работников.

По данным департамента государственной инспекции труда, в Беларуси в 2003 году на производстве пострадало 6544 человека, в том числе погибло 223 человека, тяжелые травмы получили 717 человек. Основными причинами травматизма с тяжелыми последствиями явились эксплуатация неисправных, не соответствующих требованиям безопасности машин, механизмов и оборудования, нарушение трудовой и производственной дисциплины, недостатки в обучении и инструктировании.

**www.praca.by**

ДУМКІ ЎСЛЫХ

# «Дапамажыце!»

Не паладзіў вясковец з суседам з-за кур, якія корпаюцца ў яго агародзе, строчыць скаргі ў інстанцыі і рэдакцыі — паўплывайце, прапясочце... Звольнілі з працы ці кепска рамантуюць кватэру... Зноў жа кліч — дапамажыце!

Пытаю ў аднаго такога: "Вас няправільна звольнілі з працы? У суд звярталіся?" Ён робіць здзіўленыя вочы і пасля працяглай паўзы тлумачыць, што гэта надта нудлівая справа, і тут жа пытае: "А вы не маглі б дапамагчы аформіць справу ў суд і паприсутнічаць пры яе разглядзе?"

Галоўнае для многіх — не змагацца самому за свае правы, а перакласці свае турботы на чужыя плечы. У рэдакцыю паступае нямала падобных просьбаў. Калі пачынаеш тлумачыць, што, маўляў, давай, браце, сам паварушыся, дык нярэдка ў адказ чуеш і пагрозу: чаму не хочаце працаваць з пісьмамі працоўных, не друкуеце маё пісьмо? Хаця, здараецца, тое пісьмо падпісана псеўданімам. Выходзіць, сам не хоча "засвечвацца" з крытыкай улад і настойвае, каб журналіст і газета бралі на сябе адказнасць за прыведзеныя ім факты.

Гэта рысачка яскрава высвечваецца нават у гарадскім транспарце. Кожны імкнецца хутчэй плюхнуцца на свабоднае месца. І ўжо потым перадае талончык, каб прабілі, задзейнічае ў гэтай аперацыі некалькі чалавек. Калі аўтобус загружаны, дык яно зразумела. Але ж і ў паўпустым рэдка хто сам прабівае свой талончык. Ахвотней падключаюць суседзяў па салоне. Аднаму такому кажу: "Дык самі прабіце. Няўжо цяжка два крокі зрабіць?" І не рад быў, што зачапіў, бо ў адказ пачуў столькі абразы: цяжка яму (гэта значыць мне) зрабіць пару крокаў ці перадаць каму яго талончык. Уцямілі, я проста абавязаны быў пакрочыць з сумкай да кампосцера і прабіць яму талончык. Ён жа, выходзіць, аказаў мне такі вялікі гонар, што даверыў важную справу, а я вось паленаваўся, чым моцна пакрыўдзіў яго.

Падобных фактаў безліч. Яны яскрава высвечваюць галоўную хваробу нашага грамадства, якая паралізуе нізы і вярхі. Паглядзіце, як беларускія ўрадаўцы кляньчаць у Расіі танны газ і нафту, замест таго каб выставіць ёй рынкавыя цэны за транзіт, знаходжанне яе войскаў на нашай тэрыторыі. Паглядзіце, колькі людзей шукае праўды, абіваючы парогі ўстаноў, фондаў і рэдакцый замест таго, каб выйсці на мітынгі і шэсці пратэстаў. А навошта самому засвечвацца, лепш іншых падключыць вырашыць свае праблемы.

Гэтыя факты паказваюць таксама і непрыняцце многімі рынку і яго неабходнасць адначасова. Толькі рынак вылечвае ад зневажальнага папрашайніцтва, выкарчоўвае рабскую псіхалогію і прымушае кожнага вырашаць свае праблемы.

Да таго часу, пакуль кожны не адчуе асабістую адказнасць за свой лёс, за дабрабыт сваёй сям'і, не стане барацьбітом за свае правы — лепшай долі не відаць ні яму, ні дзяржаве. Сапраўдныя грамадзяне, не рабы, звяртаюцца ў шматлікія грамадскія арганізацыі не для таго, каб перакласці свае турботы на добрага дзядзьку, а каб аб'яднаць свае намаганні дзеля адстойвання агульных інтарэсаў.

**Яўген ТАЎГЕНЬ.**

# А пенсия худеет

Несмотря на периодическое повышение пенсий и бравурные утверждения официальной пропаганды о повышении жизненного уровня населения страны, жизнь ветеранов все ухудшается. Об этом свидетельствует соотношение средней пенсии и зарплаты по народному хозяйству. Зарплата у нас, как известно, невысокая, растет медленнее, чем цены. Но пенсии отстают и от нее. Обратите внимание на предлагаемую таблицу.

**Соотношение средней пенсии по возрасту и зарплат по народному хозяйству (коэффициент замещения)**




Как видим, если в 2001 году это соотношение равнялось 44,8 процента, в 2002 году — 44,1 процента, то в прошлом — 42,6 процента. Пенсия по сравнению с зарплатой похудела примерно на 2 процента. Цены же за это время росли довольно ощутимо. Так что жить пенсионерам становится все хуже и хуже.

**Евгений ПЕТРОВ.**

# Письмо Вилли Тиса Эдуарду Товпенцу

*Генеральный секретарь Всемирной конфедерации труда (ВКТ) Вилли Тис направил письма и.о. министра энергетики Беларуси Эдуарду Товпенцу, президенту Белорусского государственного энергетического концерна "Белэнерго" Сергею Белому и директору Новополоцкой ТЭЦ Владимиру Калачеву.*

В них международная организация, представляющая более 30 миллионов рабочих по всему миру, выражает глубочайшую обеспокоенность ситуацией с тремя членами Свободного профсоюза Белорусского Новополоцкой ТЭЦ Вадимом Духоменко, Юрием Обуховым и Юрием Гайченко, которые получили уведомления о непродлении с ними контрактов. Об этом сообщает сайт praca-by.info.

Единственной причиной их увольнения является их активная профсоюзная работа. "Мы считаем эту ситуацию неприемлемой и противоречащей как международному, так и белорусскому законодательству. Администрация Новополоцкой ТЭЦ нарушает Конвенции МОТ 87 и 98, касающиеся свободы ассоциаций и коллективных переговоров, ратифицированные правительством Беларуси", — говорится в обращении. ВКТ выражает свой протест против нарушения прав членов Свободного профсоюза Белорусского Новополоцкой ТЭЦ и просит руководителей энергетической отрасли страны "гарантировать уважение к правам профсоюзов, как это записано в Конвенциях МОТ, ратифицированных Вашей страной, и в законодательстве Беларуси". ВКТ настаивает на том, чтобы решение об увольнении Вадима Духоменко, Юрия Обухова и Юрия Гайченко было пересмотрено, и выражает надежду, что правительством и администрацией предприятия будут приняты неотложные меры для исправления ситуации.

# Не подпишешь — уволим на следующий день

*Более ста сотрудников Новополоцкого городского территориального медицинского объединения поставили подписи под обращением в Администрацию президента, городскую прокуратуру и исполком, сообщает сайт praca-by.info.*

Медики просят разъяснить, с чем связана необходимость перевода с бессрочного трудового договора на контрактную форму найма. "Почему перевод является обязательным и поголовным, почему при неподписании контракта работник будет уволен на следующий день? Является ли это увольнение законным, ведь нет конкретных обоснованных причин для перевода с постоянной работы на временную, кроме ссылок на нормативные акты?" — задают вопросы авторы обращения.

Они считают, что перевод на контракт не согласуется с конституционными гарантиями права на труд и полную занятость и правовыми нормами, содержащимися в Трудовом кодексе. "Наш наниматель в контрактах опускает вопросы материальной компенсации: пункт 5 того же декрета (имеется в виду Декрет №29 от 26 июня 1999 года. — **Прим.**) предусматривает эту компенсацию в размере 50%. Если у него (нанимателя) нет денег на эту компенсацию, то зачем ухудшать наше правовое положение, к чему эта поголовная, не обоснованная реальными причинами контрактизация?" — говорится в обращении. Новополоцкие медики считают перевод на контракт незаконным, а это, по их мнению, "является поводом для применения к нанимателю определенных санкций со стороны прокуратуры и других органов".

СЛОЖНЫЙ ВОПРОС

# Как сохранить деньги?

Проблема сохранения денег актуальна для всех независимо от уровня доходов. Поэтому рано или поздно встает вопрос: как именно хранить свои сбережения и получать от них максимальный доход?

### Держим деньги дома?

Самый распространенный способ — копить деньги дома, в кубышке. Он имеет свое преимущество. Деньги всегда под рукой, могут быть доступны вам в любой момент. Но никто не даст гарантии, что до вашей личной кубышки однажды не доберутся воры.

Нелегко определиться, в какой валюте хранить свои сбережения. Как сообщает "Прайм-Тасс", реальные убытки от сбережений в наличных долларах за 2003 г. составили 17,26%. Выросла популярность евро. По оценкам специалистов, те, кто хранил свои средства в евро, по итогам 2003 года с учетом 12%-ной инфляции не понесли убытков. Правда, и прибыли тоже не имели.

Неустойчивость валютных курсов приводит к тому, что хранить деньги в иностранной валюте становится тоже не очень выгодно.

### Деньги в банк?

Планируя размещение своих средств в банке, очевидно, не избежать вопроса о надежности этого финансового учреждения. А определить ее довольно трудно, поскольку критериев для такой оценки нет. Система страхования банковских вкладов пока не работает. К тому же многие наши граждане, как говорится, уже не раз "обжигались", вкладывая средства в белорусские банки.

### Акции предприятий?

Идет приватизация белорусских предприятий. На Западе выгодно приобретать акции предприятий. Они приносят хорошие дивиденды. Но кто их имеет в Беларуси? Некоторые обменяли свои чеки "Имущество" на акции, но дивидендов так и не дождались. Поэтому многие до сих пор держат чеки дома. Кто же при такой ситуации будет тратить свои деньги на приобретение акций предприятий? Правительству стоило бы сделать привлекательным этот сегмент рынка. Это помогло бы гражданам выгодно хранить средства, а государству наполнять бюджет.

### Недвижимость?

Еще один традиционный способ сохранения денег и извлечения из них гарантированного дохода — недвижимость. Жилые квартиры, купленные на свободные деньги, с течением времени сами по себе растут в цене, плюс приносят своим владельцам доход от сдачи их в аренду.




Инвесторы, которые хотят минимизировать свои проблемы и максимально увеличить за короткий промежуток времени отдачу, вкладывают в новое строительство. Причем чем раньше вложишь деньги, тем больше выиграешь. Но здесь кроется и большой риск. Строители не гарантируют инвесторам соблюдение сроков строительства.

Покупка жилья на вторичном рынке скрывает свои "подводные камни". Специалисты отмечают, что немало продаваемых квартир имеют неидеальную историю, к которой, в принципе, можно придраться и оспорить сделку в дальнейшем. Самыми ликвидными на вторичном рынке являются недорогие одно-двухкомнатные квартиры, которые хорошо продаются и сдаются в аренду.

При покупке элитного жилья большое значение приобретает сам дом и место его расположения. Специалисты предупреждают, что, делая столь крупные вложения, нужно тщательно просчитать все детали, лучше всего со специалистом. Поскольку очень часто стоимость квартиры может сильно упасть из-за отсутствия удобной парковки или плохого состояния коммуникаций в доме, где куплена элитная квартира. Словом, надо хорошо ориентироваться на этом рынке.

Как видим, заработать деньги непросто, сохранить их — тоже. Такой взгляд на наши права показывает, что государство сильно недорабатывает.

**Василий КРАВЧУК.**

КОЛОНКА ЮРИСТА




Олег ВОЛЧЕК

## Отдельный лицевой счет

***У меня в квартире прописан сын с невесткой, которые хотят сделать отдельный лицевой счет. Я не даю согласия. Могут ли они без моего разрешения это сделать?***

**В.А.Швед, житель Минска.**

Согласно статье 61 Жилищного кодекса Республики Беларусь, совершеннолетний член семьи нанимателя жилого помещения вправе требовать заключения с ним отдельного договора найма. Ваш сын с невесткой проживают совместно с Вами в неприватизированной квартире, занимают отдельную комнату и обладают таким правом.

Ваше несогласие здесь роли не сыграет, они могут это сделать в судебном порядке.

## Завещание на имущество

***Отец написал завещание на своего племянника и оставил ему все свое имущество. Законно ли это? Я ведь единственный его сын.***

**Е.В.Сидореня, житель Бреста.**

В соответствии со статьей 1041 Гражданского кодекса Республики Беларусь гражданин может завещать все свое имущество или часть его одному либо нескольким лицам как входящим, так и не входящим в круг наследников по закону, а также Республике Беларусь и ее административно-территориальным единицам. Завещатель вправе без объяснения причин лишить наследства одного, нескольких или всех наследников по закону. Свобода завещания ограничивается правилами об обязательной доле в наследстве — статья 1041 ГК. Право на обязательную долю в наследстве имеют несовершеннолетние или нетрудоспособные дети наследодателя, а также его нетрудоспособные супруг и родители. Эти лица наследуют независимо от содержания завещания не менее половины доли, которая причиталась бы каждому из них при наследовании по закону (обязательная доля).

Завещатель вправе обусловить получение наследства определенным правомерным условием относительно характера поведения наследника, отменить и изменить составленное завещание в любой момент после его совершения и не обязан при этом указывать или сообщать кому-либо о причинах отмены или изменения им завещания.

## Окончательный расчет

***Могут ли выдать трудовую книжку при увольнении раньше, чем выплатят окончательный расчет?***

**В.Р.Покрышкин, житель Витебска.**

В соответствии со ст. 77 Трудового кодекса при увольнении работника все выплаты, причитающиеся ему от нанимателя, производятся в день увольнения. Если работник в день увольнения не работал, то соответствующие выплаты должны быть произведены не позднее следующего дня после предъявления им требования о расчете.

В случае спора о размерах выплат, причитающихся работнику при увольнении, наниматель обязан в указанный в части первой настоящей статьи срок выплатить не оспариваемую им сумму.

Заработная плата, не полученная ко дню смерти работника, выдается членам его семьи или лицам, находившимся на иждивении умершего на день его смерти.

Согласно ст.78 ТК, в случае невыплаты по вине нанимателя причитающихся при увольнении сумм работник имеет право взыскать с нанимателя средний заработок за каждый день просрочки.

